Год IV—1915 г. Студзень. 27-я кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

скай гаспадарскай выстаўцы за стацьці аб насеньні

у 1913 г.

2 срыбны мэдаль „Саха" атрымала на Мінскай гаспадарскай выстаўцы за стацьці свае аб гаспадарцы

у 1914 г.

На год с перасылкай 1 р. 20 к.

## ЗЬМЕСТ:





Адрэс: Мінск Захарэуская 24.

Дозволен. воен. цензурою. Мінск, Элект.-друкар. Нахумова.

# Да чытачоу „Сахі“.

Раптоўная, амаль не сусьветная завіруха ваенная спыніла размах культурнай працы народаў. Заблішчэў меч—стаў ржавець плуг. Глыбокіе раны, якіе ўжо зрабіла і ішчэ можэ зрабіць вайна, можэ залячыць толькі земляроб, каторы корме і адзяе ўвесь сьвет. Спакойнай, цьвёрдай рукой сеймы ж буйное, здаровае зерне на асірацелых нівах нашага роднага краю.

* * *

Рэдакція «Сахі» цьвёрда верыць, што праца наша—пры помачы, зноў згуртаваўшайся сямейкі, чытачоў, прыхільнікаў і супрацоўнікаў—земляробаў—больш не затрымаецца і кніжкі «Сахі» будуць выходзіць у сьвет акуратна.

Каб закончыць рахункі с сваімі падпішчыкамі за мінулы год, Рэдакція «Сахі» сваім падпішчыкам, замест нявышаўшых кніжак, цяпер разсылае календар, а пасля вышле ішчэ іншые дацаткі.

* * *

Даражыня ў гарадох расьце усьцяж найбольш дзеля таго, што паміж земляробам і пакупшчыком стаіць многа перакупшчыкаў і німа добра зарганізаванага вырабу і збыту прадуктаў самымі земляробамі, Дзеля гэтага, мы хочым зарганізаваць пры Рэдакціі «Сахі» Таварыство з земляробаў—вырабшчыкаў тавару і пакупшчыкоў—патрэбіцелёў, каторые самі былі б гаспадарамі гэтага таварыства і такім парадкам маглі б абыйсьціся без каштоўных перакупшчыкаў.

Просім усіх, хто хочэ прылучыцца да гэтага Таварыства, падзяліцца з намі сваімі думкамі і радамі ў гэтай справе, а хто хочэ прадаваць свае тавары гэткім спосабам—паведаміць нас: 1) якіх і колькі прадуктаў ёсьць у іх цяпер для прадажы; 2) па якой цане яны могуць прадаваць іх з дастаўкай на бліжэйшую станцію ж. д; 3) якіе прадукты могуць ішчэ вырабляць і прысылаць у будучыне (ў якім меней—болей месяцы) і колькі.

Тымчасам можна было б прадаваць: розные вяндліны, масла, сыры, сушоные і цукраваные фрукты, розные павідлы, канфітуры, віно ягаднае, мёд, воцат дамовы, розные марынаты, сушонае варыво, грыбы і т. п., а так сама і хатніе вясковые вырабы: палатно, розные тканіны і інш., Апрача таго Таварыство такое можэ купляць тут і адсылаць розные тавары, патрэбные для двароў і вёсак, як розные гаспадарскіе прылады, насеньне, соль, газу, цукар, гарбату і т. п.

Рэдакція.

# Станіслау Гольдэнэр.

### Пасьмертны Усьпаміи

У верэсьні месяцы гэтага году закончыў сваё праца вітае жыцьцё на ніве беларускай **Станіслау Гольдэнэр**.

Нябошчык—па навуцэ сваей—быў доктарам вэтэрынарыі, але праца на загоне так цягнула яго, што ён, не прыняўшы даходнай і спакойнай службы, ўсе сілы свае ўлажыў у гаспадарку—клапатарку. Варштатам працы сваей выбраў Станіслаў двор Куноса кн. Радзівілла у случчыне; заарэндаваўшы гэты двор, ён першы завёў у сваей ваколіцы радавы пасеў збожа; прыналежыў да кантрольнага млечарскага хаўрусу, каторы вядзе у случчыне супрацоўнік «Сахі» інструктар млечнай гаспадаркі Л Папроцкі; шчырай працай, добрым прыкладам і разумнай радай сьвяціў усім і жыў—чы то з багатым, чы з найбяднейшым—заўсёды як у найлепшай згодзе. С чытачамі «Сахі» дзяліўся Гольдэнэр усім лепшым, што навучыла яго рупная гаспадарская практыка, пішучы найбольш аб мэханічнай вырабцы зямлі.

Памёр Станіслаў у самай сіле веку свайго, не дажыўшы ішчэ і сараку гадоў.

# Правілы з гаспадарскай практыкі.

1) **Ары папар з восені:** Калі твая дзесянціна зямлі, на заараным папары каля Петра, дае жыта 80 пудоў, то гэты самы кавалак, заараны каля Тройцы,-дасьць 85 пудоў; заараны перад Юрьям—дасьць 90 пуд., а калі заарэш па-

пар з восені, то гэта самая дзесянціна дасьць 100 пудоў жыта.

2) **Каля папару працуй так:** самы ранны папар, зааараны з восені, пакідай на зіму у скібах; вясной-як падсохне земля- пабарануй, каля Тройцы перэары, а праз усё лета, як толькі пакажыцца трава, бaрануй вострымі баронамі, або драпачом, чы спранжыноукай, каб зьнішто-жыць траву і не даць зямлі заскарупець. Лішня не перакідай зямлі плугам, а больш налегай баронамі.

3) **Не заворывай глыбока гною, ды у мокрую зямлю,** бо ня будзіш мець карысьці с пасеву.

4) **Як толькі зьбярэш канюшыну, гарох, чы выку—зараз дзяры поле спранжыноукай, або драпачом да чарна,** каб не даваць зямлі перасохнуць, тады толькі будзе пэўнае і добрае жыта.

5) **Ары зямлю кожны год глыбей,** каб дабрацца на добрую пядзь у глыб. Араць глыбей можна толькі пад авес, бо ён не баіцца дзікай (жыўца) зямлі; калі ж бярэш у глыб пад жыта, то давай усьлед гной.

6) **Кідай дрэуняную снасьць і плугі тутэйшай работы,** а бярыся за фабрычные, бо зямлі добра ня вырабіш, жывёлу і сябе намучыш, а толькі каваль на гэтым заробе.

7) **Не ары вясной, покуль скіба блішчыць,** бо пасьля ея не разбaрануеш; а як толькі земля падсохне—бярыся за сяўбу, бо ярына жывіцца толькі зімовым запасам вільгаці. Ранная сеўба хоць ня ўродзе, але з насеньня ня зводзе.

8) **Сей лепш сяунікoм, а не рукамі.** Сяўнікі купляйце хаўрусам. Сяўнікам і пасеіш раўней, і ад кожнай дзесянціны застанецца тры пуды нясеньня. Сяўнікoм засеіш дзесяць дзесянцін зямлі у дзень і застанецца 30 пудоў дабра.

9) **Не сей ярыны пасьля калосных расьліi,** як жыта, чы ячмень, а пасьля гароху, выкі, канюшыны, чы бульбы, а зьбярэш шмат лепшы ўраджай.

10) **Якім зернем пасеіш—такі і колас вырасьце**-дык адбірай на насеньне як найлепшае зерне, бо замор-каватае і пабітае зерне ня узойдзе, а ў гаспадарцы пры; гадзіцца на вопсыпку.

11) **Не купляй заводнага насеньня,** покуль сам не ўбачыш, што яно выпрабавана і добра ўдаецца у тваей ваколіцы і на такім самым грунце, які сам маіш; або покуль сам яго на пробу не спрактыкуеш.

12). **Зьбірайце попял с печак і птушыны помят;** попял падсыпайце пад бульбу, а помят—пад варыва. Адзін гарнец попялу дасьць лішнюю асьміну бульбы.

Гусіны помят выкідайце толькі ў кучу кампостную, бо ён выпаліць збожа і траву.

У восені пасыпайце попялам сенажаці, дык к налецьцю вырасьце там гарошак і канюшына.

**13) Зрэзаные купіны на сенажацях, або торф звазі у кучу на двор;** адну кучу зрабі каля дому, перасыпай яе сьмяцьцём, лій туды памыі, выкідай кал чалавечы і птушыны, а за год будзіш мець вазоў 20 найлепшага гною—чарназёму (кампосту).

Перасыпай сухімі купінамі, чы торфам гной у хлявох, а асабліва у стайні: і гною шмат прыбудзе і мацнейшы ён будзе.

**14) Трымай менш жывелы, але давай ей лепшую выгоду і даглед**. то і карысьць шмат лепшая будзе.

**15) Злучывай свае каровы і кабылы з добрымі бугаямі і жарабцамі**, а сам заводных не купляй, бо яны далікатные і патрабуюць каштоўнай выгоды, а інакш закажанеюць.

**16) Сей у папары выку, канюшыну і іншые мешанкі** і летам прыкормлівай жывёлу з рук.

**17) Саломясты гной і худая жывела для гаспадара не пацеха, а у гаспадарцы не падмога.**

**18) Не вывазі на поле гною, покуль ен ня перапрэе у хлеве**, бо с такога гною карысьць для пасеву не вялікая.

**19) Разбівай на полі гной што найдрабней**, бо вялікіе камякі яго ў зямлі цаглеюць і не даюць пажывы для зямлі.

**20) Вазі гной с пад коней і авечак на нізкое поле, бо ен цяплейшы, с пад скаціны рагатай-на узгоркі, бо там земля цяплейшая.**

**21) Памятуй, што заводные сьвіньні добра растуць, але часта хварэюць.**

**22) Памагайце адзін другому**, памятаючы, што адзін у полі не ваяка, а грамада—вялікі чалавек. Закладайце хаўрусные бібліатэкі, выпісывайце хаўрусна кніжкі і газэты гаспадарскіе; закладайце хаўрусные крамы, купляйце супольнымі сіламі гаспадарскіе прылады, фабрычные гнаі і т. д

Верце, што гэтые правілы людзі выпрактыкавалі і выпрабавалі ў розных канцах зямлі. Не спадзевайцеся толькі што с першага году будзеце ўжо мець вялікую карысьць з гаспадаркі: трэба прылажыць працы год, два, але ня больш, а тады земля пачне выплачываць за разумны і акуратны даглёд і працу вашу каля яе.

**Г.**

# Найвялікшы наклад у гаспадарцы.

## ЦЯПЕРАШНЯЯ НАША БУДОВА.

«Будавацца і праававацца»—вось дзьве найстрашнейшые справы, як кажэ старая беларуская прыказка, для нашага гаспадара. І гэта саўсім справядліва. Бо як, цягаючыся па судох, не адзін с паміж нашых гаспадароў спусьціў усё свае багацьце і зруйнаваўся да астатку, так не раз будова праз цэлые дзесяткі гадоў не дае гаспадару пры ўсім яго стараньні і рупнасьці апраўіцца і стаць на крэпкіе ногі. І— калі тузгацца па судох—найчасьцей залежа ад ахвоты чалавека, бо гэта, праўду кажучы, такая ўжо паганая натура, чы хвароба яго, то будавацца—хоцькі ня хоцькі—прыходзіцца кожнаму с паміж нас.

Будавацца даўней, а будавацца цяпер—ясная рэч—дзьве вялікіе рожніцы. Даўней—таннасьць матэр'ялу на будову, таннасьць рабочых рук—так была непадобна да цяперашніх цэн, што толькі дзівіцца трэба, чаму даўней людзі—нават па дварох, дзе былі саўсім дармовые рабочые рукі—не ставілі больш выгоднай і трывалай будовы. Агледзіліся,—але па часе; і цяпер, бяручыся за будову, прыходзіцца добра лічыцца чы то бяднейшаму, чы нават багацейшаму гаспадару, с сваей кішанёй.

Лягчэй іщчэ прыходзіцца таму гаспадару, каторы ад векаў сядзіць на адным і тым самым мейсцы: там ён то старую будыніну падправе, то час ад часу новую паставе і гэтак з бядой на палавіну цягне лямку. Саўсім іншая справа, калі прыходзіцца закладаць новую гаспадарку, якіх цяпер што раз болей і болей прыбывае: то двары распрадаюць сваю зямлю кавалкамі, то вёскі пераходзюць на хутары, ды і сама дзяліцьба сямействаў прыспорывае што раз новых і новых гаспадароў Усім ім перш, чым брацца за будову, трэба добра падумаць, каб і выгоду патрэбную мець, і каб наклад быў як найменшы, а прыймаючы пад увагу, што цана на зямлю расьце усьцяж, то прыходзіцца лічыцца ўжо і з мейсцам, якое мае заняць новая будова.

Тут я падаю апісаньне кошту будовы, якая найчасьцей здараецца ў нашай староньцы. Спісываў я яе у аднэй вёсцы на граніцы трох паветаў: мінскага, барысаўскага і вілейскага, у гаспадара, каторы мае дзесяцін 10 зямлі. Будова гэта, праўда, не стаўлена зразу, не ўся яна нават крыта гонтамі (часьць саломай), але я падлічыў з добрым цесьлям—мэханікам: колькі трэба на гэткую будову матэр'ялу, кошт яго па тэй цане, якая трымаецца ў гэнай ваколіцы і саму работа, калі б гэткую усю будову прышлося паставіць новамУ гаспадару зразу.

# І. Хата.

Шырыня—9 арш.; даўжыня—16 арш., у сярэдзіне: 3 сьценкі папярэчные; дзьвераў—4; вокнаў большых—7; меншых—2 (адно-над уходнымі дзьвярмі; другое—ў складзіку). Выжыня хаты ад фундамэнту да страхі каля 4-х арш.; на гэта пашло 15 вянкоў; на кожны вянок ідзе 6 бярвеньняў: 2 па 9 арш.; 4—па 8 арш; значыцца усіх бярвеньняў пашло 90; на гэта ўзята капу пнёў, с каторых камлі пашлі на скрасные бярвеньні, а верхавіны—на папярэчные і на сьцены паміж вокнаў і дзьвераў. На бэлькі і легары пашло 6 пнёў (камлі—на 6 бэляк, вярхі—на легары). 40 пнёў узялі на пілоўку, с каторых вышло 80 кавалкаў на дошкі рознай меры: на падлогу, столь, шчыты, дзьверы, вокны і т. д.. Матэр'ялу на страху пашло: 9 пар крокваў, 2 капы лат і 100 кап гонтаў, Расход гонтаў вылічаны гэткім парадкам: шырыня хаты 9 арш.; на одну старану страхі аткідаецца трэцьцяя часьць—значыцца старана страхі павінна была—б мець 6 арш., ды на застрэшак надкідаецца 1 аршын, усяго, значыцца, страха будзе мець 7 аршын.: на сямі аршынах ляжэ 15 радоў гонтаў. Даўжыня хаты—16 арш., а ішчэ трэба надпусьціць з абодвых бакоў па $^3/_4$ арш., то выйдзе $17^1/_2$ арш.; лічучы на кожны аршын па 10 гонцін—выпадзе 175 штук на адзін рад, а на 15 (175×15)=2625 штук на одну старану, а на дзьве—5250—гэта будзе $87^1/_2$ коп, а лічучы ўпадак, брак—то і пойдзе 100 коп. Цьвякоў на страху і сталярку 5 пудоў. Акуцьцё дзьвераў лічыць ня менш, як па 2 рублі, вокнаў—па 50 к. Цяпер мулярка: на 2 печкі с комінамі—2000 цэглы; акуцьцё, юшкі, дзьверцы—10 рубл., фундамэнт, лічучы ўвокал на 1 арш. выжыні, будзе (9+9+16+16) 50 арш.; работа па 50 к. ад аршына—25 рубл. і 50 пудоў вапны. На сем большых вокнаў разам з дубэльтамі пашло 84 шыбы, на малые—12 шыбаў—ўсяго 96 шыбаў.

Цяпер падлічым увесь кошт хаты пры цяперашніх нашых варунках—цэнах, лічучы на тое, што дрэва удасца дастаць цэлымі пнямі з лесу, а не кавалкамі ад перакупшчыкаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 60 | пнёў да пяці вяршкоў на зруб па 2 р. | | 120 р. |
| 46 | „ выжэй „ „ на дошкі і бэлькі па 3 р. | | 138 „ |
| 80 | кавалкаў на дошкі за пілоўку па 1 р. | — | 80 „ |
| 9 | пар крокваў па 1 р. пара | — — | 9 „ |
| 2 | капы латаў па 10 кап. штука | — — | 12 „ |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 100 коп. гонтаў па 70 кап. капа | — | — | 70 | „ | |
| 5 пудоў цьвякоў по 3 рублі | — | — | 15 | „ | |
| Акуцьцё 4 х дзьвераў па 2 рубл. | — | -- | 8 | „ | |
| „ 9 ці вокнаў па 50 кап. — | — | — | 4 | „ | 50 к. |
| 96 шыб нашкліць па 20 кап. | — | — | 19 | „ | 20 „ |
| 2000 цэглы па 2 р. сотка — | — | — | 40 | „ | — |
| Юшкі, дзьверцы і інш. — — | — | — | 10 | „ | — |
| 50 пудоў вапны па 25 к. — | — | — | 25 | „ | — |
| Работа за падмуроўку — — | — | — | 25 | „ | — |
| „ за печы і коміны — — | — | — | 30 | „ | — |
| За ўсе цясельскіе і сталярскіе работы | — | — | 250 | „ | — |
| | | Разам | 855 | р | 70 к. |
| Дастаўка ўсяго матэр'ялу і розные іышые неспадзеваные расходы — | — | — | 144 | р. | 30 к |
| | | Усяго | 1000 | р. | — |

# II. Гумно.

Шырыня 9, даўжыня 16 арш; вянкоў у зрубе 16, бярвеньняў, значыцца, будзе 96, дык на гэта пойдзе 48 пнёў 4 пні на бэлькі і апрача таго 4 шулы. Матэр'ялу на страху; пашло столькі, як і на хату, толькі цьвякоў лічыцца менш— 3 пуды. Падмуроўка так сама лічыцца менш, бо дадзена ня скросная, а слупкамі, дык кошт яе выходзе палавіну кошту. Падмуроўкі на хату.

Расход, значыцца, будзе такі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 48 пнёў да 5-ці вяршкоў па 2 рубл. | | — | 96 | рубл |
| 4 пні на бэлькі выжэй 5 ці вяршк. па 3 р. | | — | 12 | „ |
| 4 шулы па 2 рублі — — | — | — | 8 | „ |
| 9 пар крокваў па 1 р. пара | — | — | 9 | „ |
| 2 капы латаў па 10 к. штука | — | — | 12 | „ |
| 100 коп. гонтаў па 70 к. капа | — | — | 70 | „ |
| 3 пуды цьвякоў па 3 р. — | — | — | 9 | „ |
| Падмуроўка: работа і матэр'ял — | — | — | 25 | „ |
| Работа цясельская — — — | -- | — | 100 | „ |
| | | Разам | 341 | р. |
| Дастаўка матэр'ялу і розные іншые неспадзеваные расходы — — | — | — | 59 | „ |
| | | Усяго | 400 | р. |

# III. Адрына.

Адрына прыбудована да гумна трысьценкам. Шыryня—6, даўжыня—9 арш. Выжыня, як і гумно на 16 вянкоў. На вянок пашло па 3 бервяны, значыцца 48 штук т. е. 24 пні, апрача таго патрэбны 2 шулы і дошкі на шчыты і дзьверы, дык ішчэ 6 пнёў. 4 пары крокваў, 1 капа латаў, 40 коп. гонтаў і $1^1|_2$ п. цьвякоў. Адрынка пастаўлена не на падмуроўцы, а на падставах.

Кошт выйдзе такі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 30 пнёў да 5-ці вяршкоў па 2 р. — | 60 | рубл. | |
| Пілоўка дошак (15 таўсьцейшых кавалкаў) — | 15 | „ | |
| 4 пары крокваў па 1 р. — — | 4 | „ | |
| 1 капа латаў — — — — | 6 | „ | |
| 40 коп гонтаў па 70 кап. — — | 28 | „ | |
| 1 1/2 п. цьвякоў — — — — | 4 | „ | 50 к. |
| Работа — — — — — — | 40 | „ | — |
| разам | 157 | р. | 50 к. |
| Дастаўка матэр'ялу і розные іншые неспадзеваные расходы — — — | 22 | „ | 50 „ |
| Усяго | 180 | рублёў. | |

# IV. Хлеу.

Шырыня 9, даўжыня—12 арш. На гэта патрэба капу пнёў, апрача таго 4 пні на шулы, усяго, значыцца, 64 пні, с каторых таўсьцейшые—10 кавалкаў пойдуць на дошкі на шчыты і дзьверы. На страху пашло 6 пар крокваў, $1^1|^2$ капы латаў, 70 коп гонтаў і 3 пуды цьвякоў.

Кошт будзе такі:

| | | |
|---|---|---|
| 64 пні па 2 рублі — — — — | 128 | рубл. |
| Пілоўка 10 кавалкаў — — — — | 10 | „ |
| 6 пар крокваў — — — — | 6 | „ |
| 1 1/2 капы латаў — — — — | 9 | „ |
| 70 коп гонтаў — — — — | 49 | „ |
| 3 п. цьвякоў — — — — — | 9 | „ |
| 6 вазоў моху — — — — — | 6 | „ |
| Падмуроўка з матэр'ялам — — — — | 30 | „ |
| Цясельская работа — — — — — | 60 | „ |
| разам | 307 | рубл. |
| Дастаўка матэр'ялу і розные іншые неспадзеваные расходы — — — — | 43 | „ |
| Усяго | 350 | рубл. |

# V. Сьвіронак.

Шырыня—7, даўжыня—8 аршын.; выжыня на 15 вянкоў, значыцца 60 бярвенцаў т. е. 30 пнёў, але трэба ішчэ надкінуць 8 пнёў і з усіх іх выбраць 15 кавалкаў на пілоўку на дошкі, аруды, шчыты і т. п. Матэр'ялу на страху пойдзе столькі, колькі і на адрынку, толькі цьвякоў трэба надкінуць 1/2 пуда, а падмуроўка павінна быць скросная.

Расход выйдзе такі:

| | |
|---|---|
| 38 пнёў па 2 рублі — — — | 76 рубл. |
| 15 кавалкаў пілоўкі — — — — | 15 „ |
| 4 пары крокваў — — — — | 4 „ |
| 1 капа латаў — — — — | 6 „ |
| 40 коп гонтаў — — — — | 28 „ |
| 2 п. цьвякоў — — — — | 6 „ |
| Падмуроўка з матэр'ялам — — — — | 24 „ |
| Работа — — — — — — | 70 „ |
| разам | 229 рубл. |
| Дастаўка матэр'ялу і розные іншые неспадзеваные расходы — — — | 31 „ |
| Усяго | 260 рубл |

# VI. Паветка.

З астаўшыхся ад будовы верхавін і аполкаў пастаўлена на слупках паветка на дровы і розные гаспадарскіе прылады.

Расход на яе:

| | |
|---|---|
| 1 пуд цьвякоў — — — — — | 3 р |
| За работу — — — — — — | 17 „ |
| разам | 20 р. |

Гэткім парадкам усе будынкі будуць каштаваць:

| | |
|---|---|
| 1. Хата — — — — — | 1000 р. |
| 2. Гумно — — — — — | 400 „ |
| 3. Адрына — — — — — | 180 „ |
| 4. Хлеў — — — — — — | 350 „ |
| 5. Сьвіронак — — — — — | 260 „ |
| 6. Паветка — — — — — | 20 „ |
| разам | 2210 р. |

З гэтага мы бачым, што гаспадару, маючы дзесянцін 10 зямлі, на будову прыходзіцца выдаць больш 2-х тысячаў рублёў т. е. болей трэба палажыць на будову, чымся варта сама земля, бо пры цяперашнім нашым спосабе гаспадаркі зямлю сярэдня лічыць можна ня больш як 150 рубл. дзесянціна. У слуцкім, чы навагрудзкім паветах ёсьць, праўда, землі, дзесянціна каторых цэніцца 300 р. і выжэй (напр. у Шчорсах), але калі узяць барысаўскі, або вілейскі паветы, то там знойдзім шмат абшараў, каторых дзесянціна не варта і 50 рублёў.

Што да самой будовы, то цыфру, якую мы тут вывялі, ня можна лічыць саўсім акуратнай, бо як сам матэр'ял, яго дастаўка, так і работа найбольш залежа ад мейсцовых варункаў. Тут мы лічылі, напрыклад, дрэва па 2 і 3 рублі пень (ніжэй і выжэй 5-ці вяршкоў у водрубе на 9 арш.)—чы можна будзе ўсюды дастаць па гэткай цане—гэта ішчэ вялікае пытаньне, а можа дзе здараецца і таней. Так сама ў дастаўцы матэр'ялу як дрэва, так асабліва каменьняў, цэглы і т. п. можа быць вялікая розніца, але як ні як, сярэдня бяручы, гэта будова абойдзецца тысячы дзьве рублёў.

Вылажыць гэткі грош на будову, каторая ня толькі ніколі ня верне нават працэнту на затрачаны капітал, але ішчэ будзе вымагаць дакладу, як за страхоўку, і час ад часу паправу,—то прынамсі павінны былі—б мы мець выгоду праз даўжэйшы час, тым часам цяперашняя наша будова і гэтага не дае: перш на перш хаты нашые найчасьцей маюць дрэнны расклад у сярэдзіне, дык німа выгоды; печы з'едаюць гібель дроў, а усё ж такі зімой халодна; хлявы так сама халодные, ажно жывёла перамерзае; другіе будынкі найчасьцей бываюць не складные, не пакоўные, а што да трываласьці, то вядомая рэч, што цяпер старадрэвіны ўжо не дастаць,—цяперашніе бярвеньні—адна марковіна, дык усе нашы будынкі, хоць дарага абходзюцца і шмат займаюць мейсца, не даўгавечны.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, пара ўжо нам адрачыся ад старога спосабу будовы, а выпрацаваць новы, больш падхадзячы да мейсцовых варункаў, тып будынку.

Стаўляюць цяпер будынкі з гліны і саломы, с цэглы, с каменьняў, з вапны і пяску—што каму выгадней і таней абходзіцца. Патрэба і нам старацца выкарыстаць той матэр'ял, які найтаней трапляецца на мейсцы, а расклад будынкаў павінен быць такі, каб як найменш займалі яны мейсца, а разам с тым былі як найтаншые і найвыгаднейшые.

**А. Вілецкі.**

**Ад Рэдакціі.** Рэдакція „Сахі" просе ўсіх, хто цікавіцца гэтай вельмі важнай справай, прысылаць нам свае праекты і пляны; ўсе цікавейшые с паміж іх будуць аддрукованы.

# Млечная Гаспадарка.

## Даглёд кароў.

Хочучы мець як найвялікшы даход съ кароў, мала ішчэ таго, каб іх толькі сытна карміць, але трэба і даглёд добры і выгоду даць.

Перш на перш хлеў павінен быць цёплы прынамсі на столькі, каб тэмпэратура ў ім трымалася не ніжэй 8—і градусаў. Стойла павінна быць заўсёды сухое і апрача таго карову трэба канешна чысьціць шчоткамі, бо гэта памагае граўленьню корму (праз транспірацыю скуру), а значыцца і здароўю жывёлы.

Вельмі важная і патрэбная рэч, каб хоць раз на тыдзень паіць карову у хлеві, дадаючы на вядро вады малую лыжачку салянога квасу (acidi muriatici); калі ж даецца каровам молаты корм, чы корм прапашны, як бульба, морква, буракі і т. п., або брага, пульпа—словам корм такі, каторы бродзіць—фэрмэнтуецца,—трэба канешна дадаваць ачышчанай крэйды, лічучы 1 фунт на 10 штук (стоўчанай на парашок крэйдай пасыпаецца корм). Калі каровам не дадаваць у корм крэйды, а да піцьця—салянога квасу, то яны, шукаючы гэтых патрэбных для свайго здароўя рэчаў, будуць лізаць сьцены, каб пажывіцца вапнай, і піць гнаёўку, каб прыдбаць сабе аманьяку.

Каровам цельным (у другой палове) мест крэйды, лепш дадаваць молатых касьцей,—гэта пойдзе як засілак для касьцей плоду.

## Даеньне кароў.

Найлепшае даеньне кароў—гэта па способу дунскага вучонага Гэгелюнда; ён раіць даіць не пальцамі, а—так званым способам—«кулакамі»; пры чым сьперша гладзіцца ўсё вымя каровы, пасьля сьціскаць досыць высока правую, а потым левую старану вымяні, а тады ўжо даіць «кулакамі». Калі карова перэстае даваць млека, тады трэба ізноў пагладзіць (масажаваць) кожную цьверць вымяні засобку і ўдарыць некалькі разоў досыць моцна кулаком у вымя з нізу-ў гару, як гэта робе цялё, а тады ўжо выдаіць дачыста.

Каб млека было добрае на смак, трэба яго зліваць у пасудак не ў аборы, а на дварэ; цадзіць не праз палатняные цадзілкі, а праз сіта з ватай і само млека павінна праз нейкі час пастаяць аткрытым, каб страціло свой пах.

*Інструктар млечнай гаспадаркі* **Л. Папроцкі.**

## Як абходзіцца з гноям.

Вядомая рэч, што гной найлепей пераховываецца у хлеві пад нагамі жывёлы, але часта прыходзіцца хоцькі ня хоцькі дзеля цеснаты выкідаць, або вывозіць яго адтуль. Дык вось пытаньне, куды-ж яго класьці, каб як найменш было глуму т е каб што найменей траціў ён сваей моцы.

На гэта ёсць толькі два способы: або складаць яго у кучу пры хлявох, або вывозіць адразу на поле.

Складаючы пры хлявох, трэба перш на перш даць пад спод, не жалеючы, подсьцілу найлепш-калі ёсьць—с сухога торфу, а не—то хоць звычайнай зямлі, або наваліць саломы, а тады ўжо класьці, туга ўбіваючы, гной. Зьверху найлепш было б даць хоць з якіх старых аполкаў стрэшку, каб не зацекала куча ад дажджоў, а не—то хоць саломай тоўста і добра яго накрыць.

Хто вывозіць гной зімой на поле, хочучы скарыстаць с свабаднейшага часу, то трэба яго там складаць у вялізарные—хоць па сто і болей вазоў-кучу. Пад спод гэткай кучы так сама добра калі падаслаць торфу, зямлі, ці саломы і зьверху прыкрыць чым колячы.

Вясной, абы толькі адышла земля, гной развесьці і усьлед заараць.

---



---

# Ліст у Рэдакцію „Сахі“.

Імпэратарскае Вольнае Эканамічнае Таварыство.
Петраград, Забалканскі пр., д. № 33.
25 Лістапада 1914 г.
№ 1467.

**Шаноуны Пане Рэдактар!**

С самага пачатку вайны Імпэратарскае Вольнае Экана-

мічнае Таварыство ўсе сілы свае прылажыло, каб колькі змога уселякімі спосабамі памагчы афярам народнай бяды Яно сабірало і раздавало афяры сем'ям запасовых салдатаў, аткрыло ў Петраградзе імяні І. В. Э. Таварыства два лазарэты для раненых ваякаў на 240 ложкаў, зрабіло каля 1000 бібліатэчкаў для раненых, каторые і разаслало у шпіталі розных гарадоў Расеі і т. д.

Цяпер І. В. Э. Таварыство занялося справай помачы жыхаром Царства Польскага, каторым найбольш шкоды прынесла вайна і акалічным з ім районам, а ад часу вайны с Турэччынай, так сама арміі і жыхаром Каўказу. Само сабой разумееецца, што помач жыхаром даецца і будзе давацца ўсім без разбору національнасьці і веры.

Апрача таго, Таварыство пастановіло:

1) зрабіць іш чэ адзін лазарэт на 100 ложкаў, але паставіць яго ўжо не ў Петраградзі, а ў Тыфлісі, атправіўшы туды дзеля гэтага поўнамочнага і другіх асоб ад Таварыства.

2) зрабіць, калі будзе змога, харчавые пунхты ў тылі Каўкаўзкай арміі, дзеля чаго паслаць туды сваіх людзей.

Каб усё гэта здалець зрабіць, патрэбны вялікіе грошы і дзеля таго Рада І. В. Э. Таварыства просіць Вас надрукаваць гэты ліст і прыймаць афяры, каторые просім перасылаць Таварыству.

Пры гэтым, добра было б, каб кожны, хто дае афяру, самі успаміналі куды яе аддаваць (чы для Польшчы, чы для Каўказу, на харчавые пунхты, чы ў тыл Каўказкай арміі), хоць, само сабой разумееецца, можна і ня успамінаць гэтага, а проста адсылаць у І. В. Э. Таварыство на патрэбы, якіе зрадзіла война.

Афяры прыймаюцца у кватэры Імпэратарскага Вольнага Эканамічнага Таварыства (Петраград, Забалканскі праспэкт, 33).

Рада І. В. Э. Таварыства просіць Вас прыняць нашу пашану.

Віцэ-Прэзыдэнт (подпіс).
Сэкрэтар (подпіс).

**АД РЭДАКЦІІ**. Рэдакція «Сахі» ахвотна і з вялікай падзякай будзе прыймаць надасланые афяры, друкаваць колькі, на што і хто праслаў і адсылаць гэтые грошы у І. В. Э. Таварыство.

**Ад Рэдакціі:** Па незалежным ад Рэдакціі прычынам акуратны выхад „Сахі“ затрымаўся. № 24—25 „Сахі“ да часу—арыштаваны; як толькі суд зьніме гэты арышт, кніжку вышлім падпішчыкам. № 26 „Сахі“— канфіскаваны; мест яго вышліцца падпішчыкам кніжка: «Гадаўля Трусоў». № 28 «Сахі» ўжо друкуецца.

Рэдактар Выдавец **А. Уласоў.**